## Яшчэ аб Беларускім унівэрсытэці.

Ахапіушая нас некулькі часу таму назад радая пачуцьо аб тым, што бадай удасца і нашай старонцы Беларусі мець свой унівэрсытэт, — павінна раптам жа астыць: у расейскіх газэтах прамігнула вестка, што расейскі урад мусяу атказацца шчэ раз ад думкі даравайь унівэрсытэт хоць бы аднаму з беларускіх гарадоу. Матывау у яго знашлося досі і, вядома, усе гэты матывы збудаваны так, што, як адзін, гаворуць нї на карысць унівэрсытэту ля беларускага краю. З узгляду міністра люцкой асьветы, як Вітабск, так і Магільоу — нї зйауляюцца сяродкам (цэнтрам) Беларускага краю, чаму і ня могуць спадзїавацца атрымаць сабе унівэрсытэту, які, па славем міністра, толькі муся быць атчыняны у цэнтру, каб зьбіраць у сябе навокал роуна вучняу краю. Мінску-ж затым атказана міласьць аткрыць унівэрсытэт, што йон знаходзіцца блізка к фронту вайны. Адным словам — ніводзін горад беларускі нїдаслужыуся да таго, каб мець у сабе вышэйшы светач навукі. Затоя замест беларускіх гарадоу маюць унівэрсытэт атчыніць у Смаленску, як па дарозі з Беларусі у Расею... Вядома, гэткая рашэньня ураду з беларускім унівэрсытам ня можа здаволіць ні аднаго ад беларусау, якія з пакрыуджанай мінай мусюць зварочвацца з дзіуным запытаньньям да саміх сябе: няужо усьо-ткі жыве шчэ сярод расейскага ураду старая, ні чым нї апрауданая баязьня беларускага сэпаратызму? Або няужо йон усьо-ткі шчэ ня мог праканацца у тым, што, даруючы вышэйшы светач краіня, гэтым можна дайсьці да агульнае выгады усяму гасударству? Бадай, што так: інaчай німа чым зйасьніць тае палітыкі яго у стасунках да Беларусі.

*Д. Ж—ч.*

---

## Бацькава воля.

Раман *Ц. Гартнага.*

Часьціна першая.

5.

На вуліцы было ціха: гуляушыя дзіучата разыйшліся. Стаяла пекная цьоплая і ясная ноч: ня дуу вецяр, ня чуваць было шуму садовых дзярэуцау, ніякага стуку, ні нават сабаччаха брэху Усьо, мэрам шчарованая некаю моцнаю таймнаю сілаю, нярухна бязмоуна, нібы мьортвая—прытаіушыся маучала. Ат хат і дзярэу з левага боку цягнуліся цяраз вуліцу рагатыя вострыя і тупыя, доугія і кароткія, страшныя і сьмешныя цені; пахла свежаю зелянньню, адправаючаю зямльою і разцвіушым бэзам.

„Так. Дык значэ йон прыедзя. Прыедзя, значэ, Рыгор на Тройцу“ — ігралі у Зосінуй галаве рэзвыя думкі: „а каліж гэта хаця тая Тройца. Здаецца ужо незадоуга... Чакай, я вырахую: тыдзянь і тры... не, тыдзянь і два... да што я... у мінулы чацьвер быу Шоснік, а сеньні нядзеля; ад Шоснікуж за дзесяць дзьон бывая усягды Тройца, а ужо тры дні мінула... Так, так—ужо за тядзянь... Ах, Рыгору мой даражэньні, як я цябе чакаю, як я прагу — с табою убачыцца!“ і Зося хапілася абедзьвіямі рукамі за грудзі, быццам стараючыся стрымаць у іх забурліушая прагнае чуцьцьо, прыціснула іх так крэпка і шчыра, што яны ня многа разшырэлі і туга напялі вузенькую шчыльную коптачку. Па тваруж, чыстаму і рыжоваму, прабегла вострая хаценьня; сінія, празрыстыя вочы яе зацягнула

* * *

Ня сьпевай у садзе салавей зальотны,
Ня трывож ты песьняй ціхага спачынку;
Учора ты і сеньні — роуна безклапотны,
А ва мне ускрашаяш нудныя успамінкі.

тонкаю смуглаю плевачкаю льогкае слязівая вільгаці: Зося соладка, утомна пацягнулася усім целам, здаровым і маладым, поуным кіпучаго жыцьця, а затым і патрабуючым буйных ласк, і на момэнт— другі мэрам замерла. Потым крыху спусціушы, разам ачулася, вытрашчыла шырока вочы і акінула развітным зіркам усьо, што ляжала перад яе вачыма — ды вылязла з вакна. „А трэ такі лажыцца спаць," парадзіла яна сама сабе і, раздзеушы верхнюю апратку да апошняе сарочкі, лягла на пасланую ей загадзя маткай пасцель...

Калі Васіль, сам ня свой ад злосьці і гневу на Зосю, вышау з двору Прыдатных на вуліцу і павярнуу да гасподы, ужо усюды усьо спала, і на мястэчку панавала сьціш. Апусьціушы к зямлі голау, аціжэушую ад нядобрых думак, йон ціха, паволі клыпау вуліцаю. Уся пекнасьць майскай ночы, якая варажыла Зосю, здавалася, яго зусім ня трывожыла сваім дзіуным харамством, ні датыкалася яго пакрыуджанай душы сваею прыгожасьцю. І па праудзі: ля чаго быу яму той, прышпіляны к цьомнаму небу, белы, ня цэлы шчэ, сярэбраны месяц, што плыу ікрас над яго галавою між тысячы рэзвых, мірготных зорак, большых і меньшых, ярчэйшых і цямнейшых. Да чаго яму гэта цьомная неба, аграмадным парасонам разгорняная над красуючай, атрадзеушай к жыцьцю зямльою. На што яму было усьо гэта, калі Зося, на якой сходзіліся усе яго думкі, усьо пачуцьцьо, якая ні давала яму спакою ні дньом ні ноччу, так сярдзіта, так ліха абышлася з ім.

Ня дзіва, што прад ім „зйауляглася адваротная прыкрая запытань-

Твае песьні у душу рвуцца
няупынна
І катуюць сэрца мукамі бяз меры:
Я пераджываю сеньні гадаушчыну
Утратак безваротны той глыбокай
веры,
Якой жыу усім целам, якой жыу
душою,
У якой дні міналі быццам тыя хвілі
І жаданьня зйалі яснаю зарою
На маім пастуглым хмурным
небасхілі...

Ты пеяу на ралах шатнае бярозы
Той заклятай ноччу першаю гадзінай,
Калі абмачылі вочы мае сльозы
Ад мяне забранай роднае дзяучыны.
— „Будзяш ты другога“—так бацькі
сказалі,
І яго к ей рукі шыбка працяглісся.
Зіркам развітанным вочкі заміргалі
І на век мы з йою, мілай, расталіся.
Я паслау прракляцьця ворагу ліхому
І слязою горкай у адзін міг аблиуся...
Тыж нямы бязсердны к майму гору
злому
Песьняю зычлівай, як цяпер, заліуся.

*Ц. Гартны.*

# Думкі да граматыкі.

5.

Святлейшыя з паміж беларусоу шмат веку свайго маладога збывалі на навуках; ведама — вучыліся ні па беларуску дык натта навыкалі да той гаворкі, на якой навуку даставалі. Такшто і думаць прывыкалі найчасьцей тымі славамі, якія праз навуку даліся ім у паміць. За беларускай кніжкай можа і гналісяб, алі як іх нельга было скуль мець, дык адбіваліся яны і ад жывой беларускай гутаркі. Ось як знайшліся дэмократы, прыяцілі прастакоу, — дык ні сусім ім льогка давацца стала праца — наладзіць пісьмянство па беларуску, бо іх вуха больш навыкала да выгавору расейскага і польскага, такшто іх беларуская гутарка шмат навароту мела да чужых гаворак. На шчот аднальковага способу пісаньня па беларуску ні было яшчэ дагэтуль згоды праз тоя, што адны трымаюцца способу падобнага — які у расейскім і у польскім пісьме йосць,

не: Няужо я такі самы чалавек, як усе людзі, і нічуткі ні важнейшы, нічуткі ні ляпейшы ад другіх? Ну, хоцьбы за гэтага самага галадранца, басяка Рыгора. І чаму гэта свет так збудованы, што людзі ня могуць цаніць чалавечае вартасці“, — думау — пытау сябе Васіль і нядавольна паверчвау галавою.

Абуяны гэтым клопатам, йон няпрыкметна ля сябе дайшоу у канец вуліцы і толькі ушчау спускацца з узгорку, ад якога мо за поуганоу — ня болі — стаяла яго хата, яшчэ зусім новая, атшліхованая дошкамі, убраная ля вокан у шчытку і на капяжы пекнаю рэзьбою і акрытая жоутаю смалістаю гонтаю, — як раптам, зусім нісподзявана, спаткнууся с Пятрусьом Бокам, які вароучауся дамоу, як потым Васіль праведау, — правьоушы да хаты Дземіну Марысю.

— А, як маісься, Васільок, — жартоуна агукнуу йон Васіля. — Аткуль так позна клыпаяш?

Васіль ухмыльнууся і ласкава атказау:

— Аттуль, куды ты ідзешь...

— Ня можа то быць.

— Я табе кажу.

Абудва весяла разсмеяліся.

— У Зосі буу? праканауся Пятрусь.

— Такі і угадау, — прызнауся Васіль.

— Вось ці ня лады сякія-такія ты пробувау рабіць, — паджартавау ізноу Пятрусь.

— Ты ня смейся, — такі і думау, толькі... заусяголау яны, — матнуушы нядбайна рукою атказау Васіль.

— А чаму?

А таму: гэты зараза... Зоська бач, так уляпалася у Рыгора, што,

а другія трымающца больш фонэтычнага способу пісаньня. Да староннікау такога — фонэтычнага — способу пісьма належу і я. І як дзіулюся з такіх беларусоу, што адбіваюцца ад беларускай гаворкі — нібы як ад „простай", так дзіулюся з такіх беларусоу, каторыя крывюцца на фонэтычны способ пісаньня па беларуску — як на „просты", ні — граматычны! што так напісаушага ні пазнаць ці йон добра граматны! Йосьць з паміж святлейшых беларусоу такія, што зручней па беларуску пішуць, чымся гаворуць, бо жылі яны на Беларусі толькі госьцючы у радні падчас вакацій, — а я пражыушы 19 гадоу бяз выязду на Беларусі хібаж магу знаць па беларуску і гаварыць добра. Гэта мне даець права пісаць свае думкі да граматыкі. Мне часамі казалі, што толькі у маей парафіі можа так гаворуць, а у іншых інакш. Пэунаж, йосьць часамі разніца у гаворца і між блізкімі парафіянамі. Алї як я глянуу у „Отвѣты на программу... Е. Карскаго" і у „Бѣлорусскій сборникъ"... Е. Романова, — дык яшчэ больш праканауся, што так як у Вялейскім павеця дык таксама гаворуць у Сьвїнцянскім, у Новаалександраускім, у Іллуцкім, у Дзісенскім, у Лепальскім, у Мьсціслаускім і блізка у вусей Могільоушчыня аднолькова.

Далей, стау я дапытываць шмат каго з беларускіх пісьменнікау — чаму з іх каторы пішыць падабней да способу пісаньня расейскіх і польскіх слоу і ці таксама йон і гаворыць? Дык атказ найчасыцей быу такі: граматыкі беларускай німа, а інаж хіба (?!) будзіць падобнай да граматыкі расейскай ці польскай — дык так і пішу, казалі мне, бо так яшчэ пішуць ужо і другія, як відаць з нікаторых кніжак.

Я тады пытауся — ці добра былоб ведаць як сапрауды гаварылі гадоу таму 400 беларускія пісьменнікі — ці таксама як мы цяпер, ці так як відзїм напісаным у Статуця Літоускім?

— Ведаць нельзя цяпер.

— Вотаж трэба так пісаць як і гаворым, каб посьля нас патомкі

---

а ні рады... вунь пісьмо ад яго мая, да што... Бацькі, ведама... та яшчэ можна зладзіць з імі, а яна ні якае надзеі ня падае.

— А знаеш?

— Ну?

— Дурная яшчэ зусім: ні разбірая нічагуткі. А вось няхай толькі крыху нацешыцца... Павер, няйначай к табе вернїцца — пачакай адно... А тымчасам—ты падкачвайся усьо бліжэй к яе бацьком, падгаварвай іх і... справа сама давядзецца да жаданага канца... Вось прыуспомніш мае словы... Ня тужы толькі, нї жалуйся.

Васілю гэты словы так спадабаліся, што разам развясялілі яго, разагналі усе чорныя думкі.

— Да я мала зусім і клапачуся, — цьворда адказау йон Пятрусю і прытупнуу нагою.

— А так і трэба, няпрыменна так, — пахваліу Пятрусь, палопаушы зльогку Васіля па плячу. — А, ведаїш, мне трэ ісьці ужо, дабавіу йон і працягнуу Васілю руку.

— Та пастой яшчэ крыху, — папрасіу Васіль бяручы Пятрусьову руку і паціскаючы яе.

— Не, нї магу. Дабранач.

Развітауся Пятрусь і хутка схавауся за вуглом Цішкавай хатыякая шмат выпірала тыльнаю сцяною на вуліцу, дзе пачынауся уклон горкі.

Васіль паглядзеу услед таварыщу, пастаяу крыху і пачау спускацца с горкі к рэцца, цяраз якую была паложана кладка ікрас супроць вешніц у яго дварэ.

Калі Васіль падышоу к вешніцам, на сустрэч яму выбег яго любы сабака, Немяц — па прозьвішчу; весела і прыветна матаючы хвастом і галавою ды з радасьці скавычучы,

ведалі як мы гаварылі. А сумысьля рабіць наварот каб беларуская пісьмо падобным было да расейскага ці да польскага — дык гэта толькі на шкоду нам будзіць, бо шмат такіх ужо йосьць, што пачуушы падобныя словы да расейскіх ці польскіх, кажуць, што беларуская гаворка гэта мішаніна слоу расейскіх і польскіх.

Дык пісаць трэба па беларуску канешна так—як будзіць найбольш падобна да жывой гаворкі і асьцірагацца у пісаньню наварот рабіць да расейскай ці да польскай граматыкі, бо для беларускага пісьма граматыка уложыцца з часам свая, дапасаваная да жывой гаворкі, — што йосьць ідэалам філологау.

*Акцьуб.*

(Далей будзя).

## Навіны.

У „Дз. Віл." 7 наябра надрукована рапараджэньня аб тым, каб усе мужчыны у Вільні векам ад 17 да 60 гадоу зйавіліся да доктарскага перагляду на конт адароуя. Гэтым нямецкі урад хоча падлічыць здаровых і годных да працы людзей, каб потым прызваць іх на ваенную работу. Ад перагляду дактароу вольны усе духоуныя, вучыцялі, дактары, аптэкары і вучні духоуных вучылішч. Багатыя ж людзі, няпрывыкшыя да працы, мусяць плаціць па 600 марак (марка на нашы грошы — 48 кап.) у месяц трудавой павіннасьці. За гэты грошы будзя купляцца апратка ля прызваных. Хто ні захоча іці на доктарскі перагляд, таго караюць астрогам на тры месяцы, альбо штрафам на 10000 марак.

---

Рада Загранічнага Літоускага Камітэту вырабіла вось якую рэзалюцію: Зварочваючы увагу на тоя, што маніфэст немцау да палякоу аб дабрахотным набору у салдаты датыча ня толькі адных палякоу, а і літоуцау, а трэба ведаць, што Літва зусім асобная краіна ад Польшчы — гэткаю была і застанецца,— рада літоускага камітэту прызнае набор непадходным да правоу літоуцау і пратэстуя супроць глуму з народных правоу.

---

йон пачау цьорціся у Васільовых ног, нюхаць яго і лашчыцца. Васіль некулькі разоу пагладзіу яго па галаве, пахваліу за тоя, што йон ня спіць ноччу, а старанна і пільна сцяражэ хату; потым, вайшоусы у сенцы, адламау ат бохана хлеба, які ляжау заусьоды на нізянькуй і узянькуй паліцца, тоусты трэсканы акраяц і пачаставау ім Немца. Сабака падзячна завіляу хвастом, хапіу у зубы хлеб, ад бегся к плоту і пачау есьці.

Васіль зачыніу сенцы, закруціу на закрутку, раздзеуся у пацьомку, і, ні заглядаючы у хату, ульогся на ложку у сенях спаць.

(Далей будзя).

## Аустрыя Украінцам.

Аустрыяцкая гасударства зложана са шмат розных, большых і мэньшых народау, якія на працягу нейкага часу былі завайованы аустрыякамі і прылучаны да сябе. Адны ат гэтых народау, большыя па ліку, як чэхі, або палякі, доугаю барацьбою з дзержаунаю нямецкаю націяй, сумелі дабіцца большых правоу, — другія-ж, меньшыя, як славенцы, славакі ды русіны, ні змаглі гэтага зрабіць і ля іх удзеляна многа меняй правоу, чымсь другім. Але шчэ ні водзін ад аустрыяцкіх народау, як большы, так і меньшы, ні карыстаіць усімі правамі, роунымі з самімі аустрыякамі, ня гледзючы на тоя, што доугімі часамі ім прыходзілася вясьці барацьбу за іх. І мы бачым цяпер, што барацьба аустрыяцкіх народау за правы вядзецца і далей. Кожны народ са свайго боку вядзець гэту барацьбу; аустрыякам прыходзіцца іці на уступкі. Вось і надоячы, аустрыяцкі цар, цяпер нябошчык Франц-Язэп, быу змушаны даравадь украінцам аутаномію. Як шырока гэта аутаномія, дадзїная Галіціі аустрыякамі, і якую мэту яны бачуць у гэтым, дагадацца трудна. Вядома толькі адно, што гэтай аутаноміяю аустрыяцкая правіцяльства хоча застрэліць двух зайцау: уцішыць барацьбу нутраную і атрымаць пахвальбу староньнюю. Ці дастукаїцца яно гэтага, ці не,—а што датычэ асобнаго афэкту, та яно гэтага дастала. Прауда, даушы украінцам аутаномію, аустрыяцкая правіцяльства падпала пад асаду другіх сваіх народау, якія і сабе патрабуюць льгот ад яго. І гэта нутраная барацьба у часы дужа гібяльнай ля Аустрыї вайны можа прывясьці усе гасударствы к разрусе. Хіба аустрыяцкая правіцяльства знойдзя, як і дагэтуль, асобныя сцежкі на пуціня уступак кожнаму народу. Пажывьом—убачым.

*Д. Ж—ч.*

## У Казані.

Беларускае Таварыства для помачы уцікачом у Казані.

* *
*

Тут йосьць шмат уцікачоу беларусоу і дауна наезных, каторых загнала доля сюды—у чужы і далькоі край.

Восьжа тыя з йіх, у каторых найшлося і выявілася пачуцьцьо еднасьці са сваім народам і спогад нісканчонаму гору нашых уцікачоу, пастанавілі закласьці „Беларускае Таварыства у горадзі Казані для помачы пацярпеушым ад вайны, і 23 Лістапада падалі статут Таварыства умацаваць Губарнатару. Статут падобны да беларускага Таварыства у Петраградзі; йосьць толькі ні вялічкая зьмена такая: сяброуская складчына — 5 руб на год; а хто ня можыць заплаціць адразу — таму пазваляїцца часткамі плаціць праз тры разы.

Закладчыкі спадзяюцца, што кожны беларус, дыйня толькі беларус — а кожны добры чалавек скажа ім: „Памажы Божа!“

Трэба пастарацца каб усе беларусы, што жывуць у Казані, прылучыліся да гэтай добрай справы. А йосьць тут шмат нашых людзей, што могуць і павінны прылучыцца да працы, але... іншыя нават ні разумеюць на што гэта працаваць для другіх. Яны разумеюць кінуць дзеду грашак, але працаваць... Дый трудна з часам, калі учора у тэатру, сяньні у кінематограф, заутра у госьці...

Уморысься...

Або хочыцца галаву каму абаламуціць, а часамі — табе замуцюць...

Бяда, — дужа „сучасны“ народ. Але добра тоя, што усьожткі знайходзюцца людзі, каторыя шчыра бяруцца памагчы уцікачом.

Якжа гаруюць уцікачы! Ім трэба і матэрыяльнай падмогі і рады і — надзеі паддаць збалеламу сэрцу.

Калі я зайшоуся да нікаторых першы раз, загукау па нашаму, парадзіу тоя—сьоя, дау кніжак беларускіх, яны — ці паверыця — прасьлязіліся з радасьці.

*Я. С.*

Казань.

### Слуцк.

Ажно каля пяцідзесяці гадоу, ат самага прыгону, ляжала на нашых мужыкох так празваная дарожная павіннасьць. Кожны раз, калі псавалася панская грэбля, паліція хадзіла па мястэчках і вьосках і гнала людзей с коньмі, а у каго ня было іх, та так, — на папрауку дарогі. Прыходзілася кідаць усякую сваю справу і йсці на цэлы дзень. Ні пашоушыж, можна было папасьці пад штраф, або адседку.

Аб адменя гэтай благой павіннасьці ніхто нядадумауся да апошняга часу. І нешта нейкая вышла— цяпер, што на аткрытум нідауна земскум зборышчы пастанавілі замяніць яе на грашавую атплату. Усьожткі крыху лягчэй будзя.

---

У Вітабску ля сямей прызваных на вайну аткрыта сталовая, дзе можна паабедаць за 20 кап., а выпіць шклянку гарбаты за 3 кап.

---

У Краменчугскум паветавум зборышчы кучка панятых пастанавіла хадайнічаць перад высшым урадам, каб у земскіх вучылішчах дазволілі учыць дзяцей на украінскай мове.

---

У Гасударскай Думе трудавая группа дэпутатау падала запытаньня, у яком гаворыцца, што уніяцкі мітрапаліт гр. Шэптыцкі сядзіць у астрозе Суздальскага манастыра, і ці ведая аб сім урад. Калі ведая, дык чаму забараняя мітрапаліту свабоду?

---

Рäдактар-выдавец Д. Жылуновіч.

---



«Русско-Французская Типографія». Петроградъ, Офицерская, 6.